# Голас Радзімы

№ 16 (2106)
20 красавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.











Добры, адмысловы работнік, майстар здаўна быў асабліва паважанай і аўтарытэтнай асобай, бо рэчы, вырабленыя яго ўмелымі рукамі, доўгія гады верна служылі людзям, радавалі сваёй дасканаласцю і прыгажосцю. Звычайна слава пра такіх умельцаў разыходзілася па наваколлі, а пра найбольш таленавітых ведалі не толькі ў суседніх, але і ў далёкіх землях. Гандляры з задавальненнем бралі іх тавар, пакупнікі — набывалі. А самі рэчы, прывезеныя з іншых месцаў, прыносілі гонар і павагу не толькі свайму вытворцу, але і ўсяму народу, да якога ён належаў, усёй яго краіне.

Ішлі гады, стагоддзі, але вось такое вымярэнне прэстыжу народаў і краін, сярод іншага, і праз якасць выраблена́й імі прадукцыі, не знікла. І адным з паказчыкаў тут быў і застаецца экспарт мясцовых тавараў за мяжу. Што замежны гандаль — адзін з найлепшых і эфектыўных сродкаў мацаваць добрасуседскія адносіны паміж людзьмі, таксама вядома ўсім даўно.

**НА ЗДЫМКАХ:** вырабы, якія Беларусь экспартуе за мяжу.

(Артыкул «Навука гандляваць» пра знешнегандлёвыя сувязі сучаснай Беларусі змешчаны на 3-й стар.).

Фота С. КРЫЦКАГА і
Г. УСЛАМАВА.

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## БЛІЗІЦЦА ДА ЗАВЯРШЭННЯ

Завяршаецца працяглы арбітальны палёт савецкіх касманаўтаў Аляксандра Волкава, Сяргея Крыкалёва і Валерыя Палякова.

У апошнія дні ў праграму работы экіпажа арбітальнага комплексу «Мір» былі ўключаны інвентарызацыя абсталявання і расходуемых матэрыялаў, рэгламентна-прафілактычнае абслугоўванне і кантрольныя праверкі бартавых сістэм.

Намечана правесці таксама дазапраўку паліўных бакаў базавага блока гаручым і акісляльнікам, дастаўленымі караблём «Прагрэс-41», пачаць кансервацыю бартавых сістэм станцыі.

Вяртанне касманаўтаў на Зямлю запланавана на 27 красавіка. Арбітальны комплекс «Мір» будзе працягваць палёт у аўтаматычным рэжыме.

ЮБІЛЕЙ КАБЗАРА

## УРАЧЫСТАСЦІ Ў АРАУ-ПАРКУ

У маляўнічым кутку штата Нью-Йорк, у Араўпарку, сабраліся, каб урачыста адзначыць 175-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі, прадстаўнікі Лігі амерыканскіх украінцаў (ЛАУ), Лемка-саюза, актывісты беларускай і эстонскай эміграцыі, а таксама працаўнікі пастаянных прадстаўніцтваў Савецкага Саюза, Украінскай ССР і Беларускай ССР пры ААН. Яны ўсклалі кветкі да падножжа помніка вялікаму Кабзару. Загучалі неўміручыя радкі яго «Запавета».

Шаўчэнка быў інтэрнацыяналістам, сказаў, выступаючы на мітынгу, пастаянны прадстаўнік Украінскай ССР пры ААН Г. Удавенка. Нашчадкі помняць пра гэта, і таму не выпадкова ў Араўпарку яго бюст стаіць побач з бюстамі геніяў рускага, беларускага і амерыканскага народаў — А. Пушкіна, Я. Купалы, У. Уітмена, пастаменты якіх таксама ўпрыгожылі кветкі.

На мітынгу выступіў галоўны рэдактар органа ЛАУ—газеты «Українські вісті» М. Ганусяк, які толькі што вярнуўся з шаўчэнкаўскіх святаў на радзіме паэта.

Праграму свята завяршыў вялікі канцэрт у памяшканні школы імя Марціна Лютэра Кінга ў цэнтры Нью-Йорка. Інтэрнацыянальны калектыў мясцовага ансамбля «Дніпро» з вялікім поспехам выканаў украінскія, рускія, беларускія, малдаўскія народныя танцы.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## НОВЫ МАТЭРЫЯЛ

Здольнасць мікраарганізмаў харчавацца палімерамі выкарысталі вучоныя Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР, каб нераспрыўна звязаць аснову новага кампазіцыйнага матэрыяла з арміруючымі валокнамі.

Звычайна на такім валакне — гладкім і трывалым — малекулам палімера немагчыма ўтрымацца. Таму бактэрыям і грыбам было даручана выядаць з арматуры азот. Разрыў, што ўтвараецца на месцы з'едзенай малекулы азота, нейкі час яшчэ захоўвае павышаную хімічную актыўнасць, што дае магчымасць «прышыць» тут іншую малекулу. Такія рэчывы-трансплантанты прадбачліва ўводзяцца ў культуру мікраарганізмаў і неўзабаве на валокнах з'яўляюцца варсінкі, якія трывала ўтрымліваюць арматуру ў саставе кампазіта. Ніякімі іншымі спосабамі атрымаць падобны матэрыял немагчыма.

НАРАДЗІЛАСЯ АБ'ЯДНАННЕ

## ПРАДПРЫЕМСТВА Ў ІНСТЫТУЦЕ

Новае гасразліковае аб'яднанне «Квант» стварылі камсамольцы Мінскага радыётэхнічнага інстытута. У якасці прадпрыемства маладзёжнай ініцыятывы яно заключае гаспадарчыя дагаворы на правядзенне навукова-даследчых работ, распрацоўвае праектную дакументацыю для любых відаў будаўніцтва і прыцягвае да іх ажыццяўлення студэнцкія будаўнічыя атрады. У функцыі «Кванта» ўваходзіць таксама аказанне пасрэдніцкіх паслуг у арганізацыі адпачынку. У склад аб'яднання ўвайшлі камітэт камсамола, прафком інстытута і савет студэнцкага навуковага таварыства.

АЙЧЫННАЯ МАРКА

## ЖЛОБІНСКІ МЕТАЛАКОРД

Толькі год спатрэбіўся Беларускаму металургічнаму заводу ў Жлобіне, каб перавысіць па якасці ўсе віды айчыннага металакорду і выйсці на ўзровень міжнародных стандартаў. Высокую трываласць, іншыя выдатныя тэхнічныя ўласцівасці прадукцыі нядаўна адзначыла аўтарытэтная міжведамасная камісія. Яна ўлічыла і меркаванне асноўных спажыўцоў — бабруйскіх шыннікаў. З выхадам у гэтым годзе на праектную магутнасць металургі змогуць задавальняць іх патрэбы літаральна па ўсіх пазіцыях.

На прадпрыемстве ўпершыню ў краіне асвоілі выпуск металакорду пяці канструкцый. З яго робяць надрэнны «абутак» для «КамАЗаў», «Жыгулёў», аўтобусаў. Больш аператыўна арганізавалі работу, кіравацца якасцю дазволіла структурная рэарганізацыя вытворчасці. Сёння калектыў рыхтуецца да ўкаранення поўнага гасразліку, выбараў дырэктара. Не за гарамі і атэстацыя прадукцыі вядучымі заходнімі фірмамі. Магчыма, ужо ў бліжэйшы час беларускі металакорд з'явіцца на сусветнім рынку.

АДКРЫЎСЯ САЛОН

## З КАНВЕЕРА Ў ПРАКАТ

Любая навінка Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання цяпер па кішэні кожнаму прафесіяналу або аматару фотасправы. Да іх паслуг — салон пракату, які адкрыўся пры гарантыйнай майстэрні вілейскага завода «Зеніт» — філіяла БелОМА. Пазбаўленыя ад неабходнасці купляць найноўшыя апараты ў магазіне, кліенты мяняюць узятыя раней, гэта значыць маральна ўстарэлыя «Зеніты», на самыя сучасныя, толькі што асвоеныя.

Асаблівасць салона ў тым, што на рукі выдаюцца толькі новыя «Зеніты», якія паступаюць непасрэдна з завода. Камеры, што адслужылі свой тэрмін, адразу ж мяняюць на апошнія мадэлі. Асартымент пастаянна папаўняецца, таму задаволіць запатрабаванні могуць практычна ўсе жадаючыя.

ПРАФЕСІЙНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

## АБ'ЯДНАЛАСЯ ЭСТРАДА

Дзеячы беларускай эстрады правялі ўстаноўчую канферэнцыю і стварылі сваю прафесійную асацыяцыю пры Музычным таварыстве БССР.

— Наша асацыяцыя аб'яднала эстрадных выканаўцаў, крытыкаў, музыказнаўцаў, педагогаў, творчых работнікаў, звязаных з музычным, размоўным, арыгінальным, танцавальным жанрамі,— расказвае член праўлення асацыяцыі, галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі М. Фінберг.

— Ставім мэтай і абарону прафесійных інтарэсаў майстроў эстрады. Задачы самыя разнастайныя: арганізацыя творчых майстэрань, дапамога канцэртным арганізацыям і самадзейнасці, развіццё эстраднай адукацыі, арганізацыя конкурсаў, фестываляў, семінараў, выдавецкая дзейнасць.

Старшынёй праўлення асацыяцыі эстрадных дзеячаў Беларусі абраны народны артыст БССР Віктар Вуячыч.

ЛЕСАПАСАДКІ



Гарачая пара настала ў гадавальніку Лістападавіцкага лясніцтва Мінскай вобласці. Ідуць лесапасадачныя работы, рыхтуюцца да адпраўкі саджанцы дрэў і дэкаратыўных кустоў, прызначаныя для азелянення гарадоў і пасёлкаў рэспублікі. У мінулым годзе было рэалізавана больш за сто тысяч штук саджанцаў.
НА ЗДЫМКУ: начальнік гадавальніка Ніна БАРОДКА і трактарыст Міхаіл МАРЫНІЧ за адборам саджанцаў.

МАСТАЦКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## РЭНЕСАНС ПАЧЫНАЕЦЦА З ВЕРНІСАЖА

З запаснікаў студый, майстэрань, з хатніх калекцый аршанцаў у новую выставачную залу «перасяліліся» лепшыя работы самабытных талентаў аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі. Вернісаж наладжаны народным клубам самадзейных мастакоў «Рэнесанс» у дзень адкрыцця першага мастацкага салона. Жывапіс, скульптура, графіка, творы прыкладнога мастацтва выдатна ўжываюцца пад адным дахам.

Закладзена першая цагліна ў падмурак буйнога культурнага і гісторыка-краязнаўчага комплексу. У яго ўвойдуць адрэстаўраваныя Базыльянскі і Куцеінскі манастыры, дзе тры стагоддзі назад убачыў свет першы друкаваны буквар на беларускай мове, помнікі сярэдневяковай архітэктуры, арыгінальныя старадаўнія будынкі канца мінулага — пачатку гэтага стагоддзяў. У іх размесцяцца тэматычныя музеі, карцінныя галерэі, канцэртная зала, клубы па інтарэсах. У стварэнні комплексу дапамагаюць як асобныя энтузіясты, так і працоўныя калектывы прамысловых прадпрыемстваў, творчыя аб'яднанні.

НА СТАЛІЧНЫМ ПРЫЛАЎКУ

## ПРАПАНУЕ «КНІЖНЫ СВЕТ»

Маскоўскі магазін «Кніжны свет» вядомы многім. Прадстаўлены тут кнігі народаў СССР цікавяць не толькі масквічоў, але і гасцей сталіцы. Ёсць тут секцыя беларускай літаратуры. Не залежваюцца на паліцах вельмі папулярныя творы Я. Купалы, У. Караткевіча, П. Броўкі, В. Быкава, А. Адамовіча, іншых аўтараў. «Вянок» М. Багдановіча быў распрададзены за лічаныя мінуты.

Пакупнікі «Кніжнага свету» праяўляюць цікавасць не толькі да перакладаў на рускую мову. У Маскве ж пражывае амаль 60 тысяч беларусаў.

Вялікім попытам карыстаюцца кнігі выдавецтва «Юнацтва». Вельмі палюбіліся масквічам дзіцячыя выданні. Выдатна афармленыя, яркія і, што немалаважна, недарагія кніжкі ідуць нарасхват. Не адстаюць і выдавецтвы «Мастацкая літаратура», «Беларусь».

СТЫПЕНДЫІ ДЗІЦЯЧАГА ФОНДУ



Відаць, гэта не выпадкова, што палавіна тых, каму ў Цэнтральным Камітэце камсамола Беларусі былі ўручаны стыпендыі Беларускага аддзялення Усесаюзнага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна, — студэнты педагагічных вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцы педвучылішчаў. Выгадаваныя без бацькоўскай ласкі, у дамах-інтэрнатах, яны абралі для сябе прафесію тых людзей, хто, як змог, саграваў іх дзяцінства, дапамагаў рабіць першыя самастойныя крокі ў жыцці, вучыў дабрыні. Менавіта педагогамі вырашылі стаць выдатніцы вучобы, стыпендыяткі Дзіцячага фонду Святлана Вераб'ёва — студэнтка педфака Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры, Алена Берасцевіч — другакурсніца Мазырскага педінстытута, Жанна Лютая — навучэнка Барысаўскага педвучылішча.

Усе 15 маладых людзей, якія па выніках вучобы названы стыпендыятамі Дзіцячага фонду, будуць атрымліваць дадаткова да сваёй стыпендыі 100 рублёў — для студэнтаў інстытутаў і тэхнікумаў і 50 рублёў — для навучэнцаў ПТВ і СПТВ на працягу ўсяго семестра.

НА ЗДЫМКУ: старшыня прэзідыума Праўлення Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна У. ЛІПСКІ віншуе аднаго са стыпендыятаў, студэнта Беларускай сельгасакадэміі Віктара БУЛЫГІНА.

СТВОРАНА АРГАНІЗАЦЫЯ

## АДРАДЖЭННЕ ТРАДЫЦЫЙ

Садзейнічаць развіццю культуры, адраджэнню традыцый славянскай гісторыі будзе Фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур у Маскве.

— У нашы задачы, — гаворыць старшыня фонду акадэмік Н. Талстой, — уваходзіць вывучэнне і прапаганда гісторыі, культуры славянскіх народаў, правядзенне святаў пісьменнасці, іншыя мерапрыемствы. Вялікае значэнне надаецца развіццю кніжнай справы. Фонд мае намер выдаваць газету і часопіс.

Аналагічныя арганізацыі створаны ў шэрагу саюзных рэспублік. Кніга памяці ў Беларусі адлюструе ўсё, што вядома аб гісторыі, маралі, традыцыях, нацыянальных абрадах рэспублікі.

УНІКАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

## ЗНАЙШЛІ СКАРБ НА БУДОЎЛІ

На унікальную калекцыю сталовага серабра выпадкова натрапілі будаўнікі, якія ўзводзяць жылы дом у цэнтры Брэста. Пад зямлёй тут было захавана 40 розных прадметаў. Эксперты ўстанавілі, што рэчы са скарбу выраблены, у асноўным, у канцы мінулага стагоддзя. Сярод знаходак — прыгожыя лыжкі з вензелямі, два сярэбраныя бакалы з відамі еўрапейскіх гарадоў, гравіраваная сальнічка вядомага маскоўскага майстра Л. Алексы, некалькі цудоўных жаночых упрыгажэнняў. Спецыялісты мяркуюць, што скарб схаваў хтосьці з багатых гараджан у 1916 годзе ў час ваенных дзеянняў у Брэст-Літоўску.

Знаходка папоўніць фонды абласнога краязнаўчага музея. Пасля старannага вывучэння яна зойме месца ў дзеючай экспазіцыі, а рабочыя, якія знайшлі калекцыю серабра, атрымаюць законнае ўзнагароджанне.

ВЫЙШАЎ ЗАГАД

## ДАЗВАЛЯЕЦЦА ПАЛЯВАННЕ

Міністэрства лясной гаспадаркі БССР выдала загад аб веснавым паляванні на тэрыторыі рэспублікі ў 1989 годзе.

Устаноўлены нормы здабычы дзічыны на аднаго паляўнічага ў дзень: вальдшнэпаў — да 3, качараў — да 2, цецерукоў — 1.

У час калектыўных выездаў паляўнічыя правядуць веснавы ўлік дзічыны, комплекс біятэхнічных мерапрыемстваў, будуць змагацца з браканьерствам і шкоднымі для паляўнічай гаспадаркі жывёламі.

*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»*

# ПЕРШЫ ВІЗІТ

Першыя вынікі супрацоўніцтва паміж Беларускім таварыствам «Радзіма» і Беларускім грамадска-культурным таварыствам (БГКТ) з ПНР падведзены ў час знаходжання дэлегацыі з Беласточчыны ў Мінску. У яе склад уваходзілі: А. Баршчэўскі —старшыня прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, А. Іваноўскі — першы намеснік старшыні, М. Мікалаюк — грамадскі намеснік, В. Луба — рэдактар газеты «Ніва». Хоць ад пачатку зараджэння сувязяў паміж таварыствам «Радзіма» і БГКТ мінуў амаль што год і не адзін госць з Беластока пабываў ужо ў Мінску, гэта была першая афіцыйная дэлегацыя ад беларусаў з Польшчы.

Перад тым як весці гаворку аб выніках супрацоўніцтва, варта прыгадаць, што яно датычыцца не толькі адносін паміж БГКТ і Беларускім таварыствам «Радзіма». Як вядома, асаблівасць супрацоўніцтва з беларускай меншасцю ў Польшчы ў тым, што яго праграма ўяўляе сабой цэлы комплекс мер і ажыццяўляецца шматлікімі грамадскімі арганізацыямі і міністэрствамі Беларусі. Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў, Міністэрства культуры БССР, Гродзенскі аблвыканком — кожная з гэтых і некаторых іншых арганізацый і ўстаноў мае ў гэтай праграме сваю «дзялянку». Ліцэі і беларускія школы на Беласточчыне ўжо атрымліваюць з Мінска падручнікі. Пашырыліся прыгранічныя культурныя сувязі, асабліва паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай. Адзін з апошніх прыкладаў — Дні культуры Гродзеншчыны на Беласточчыне, якія адбыліся ў лютым і на якіх усеагульнае захапленне і сімпатыі заваявоў танцавальны калектыў «Белыя росы». Падчас нядаўняга візіту намесніка міністра культуры БССР У. Гілепа і старшыні Беларускага фонду культуры І. Чыгрынава ў Варшаву было заключана пагадненне аб культурным супрацоўніцтве паміж краінамі-суседзямі, у якім, у прыватнасці, улічаны і культурныя запатрабаванні беларусаў у ПНР.

Беларускае таварыства «Радзіма» за гэты час таксама зрабіла першыя крокі ў супрацоўніцтве з БГКТ.

Парадак дня работы дэлегацыі, які ўвабраў у сябе багата мерапрыемстваў, адкрыла працяглая сустрэча ў Беларускім таварыстве «Радзіма». Удзельнікі змястоўнага дыялога былі адзінадушныя: супрацоўніцтва набірае хуткасць і моц і адпавядае інтарэсам абодвух бакоў, хоць ёсць і некаторыя цяжкасці. Зразумела, яны тлумачацца навізной справы, недасведчанасцю, малым вопытам.

Летась Беларускае таварыства «Радзіма» прыняло ў піянерскі лагер на адпачынак першую групу вучаніц з беларускага ліцэя ў Бельску-Падляскім. Сёлета дзяцей з Беласточчыны таксама чакае цікавае лета ў піянерскім лагеры пад Мінскам. Але група будзе ўжо большай. У мінулым годзе пяць кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці з розных аддзелаў БГКТ удасканальвалі прафесійнае майстэрства на трохтыднёвых курсах, якія таварыства «Радзіма» праводзіць штогод. Сёл[illegible] было падкрэслена ў час [illegible]рэчы, Мінск зноў чакае аматараў танцавальнага і харавога мастацтва. Чытачы ў нашай рэспубліцы маюць магчымасць выпісваць беларускую газету «Ніва», можна купіць яе ў многі[illegible]ёсках Мінска і іншых гарад[illegible] дапамогаю «Радзімы» БГКТ наладзіў узаемавыгадныя сувязі з вытворчым камбінатам Саюза тэатральных дзеячаў БССР, які ўжо выканаў вялікі заказ — пашыў нацыянальныя касцюмы для калектываў мастацкай самадзейнасці Беласточчыны. А якраз цяпер дзве рукадзельніцы з БГКТ у тым жа камбінаце вывучаюць сакрэты машыннай вышыўкі.

Асаблівы клопат Беларускага таварыства «Радзіма» — дапамога будаўніцтву музея здабыткаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Таварыства ўжо даўно дамагаецца адкрыцця спецыяльнага рахунку ў банку для збору ахвяраванняў сярод грамадскасці Беларусі. Ёсць пэўныя планы, як дапамагчы ў абсталяванні музея, у афармленні яго экспазіцый.

Госці з Беластока (а большасць з іх былі ўпершыню ў Беларусі) атрымалі магчымасць азнаёміцца са сталіцай, горадам Мінскам, наведаць музей Янкі Купалы ў Вязынцы, пабываць у Хатыні.

Дэлегацыю прыняў старшыня прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма», народны дэпутат СССР М. Савіцкі. Народны мастак СССР ахвотна паказаў гасцям сваю майстэрню і плён надзвычай напружанай працы: пакуль што незавершаную серыю «Чорная быль», партрэты А. Пушкіна і Н. Ганчаровай, Ф. Скарыны і іншыя работы.

Як вельмі карысны ахарактарызавалі госці з ПНР абмен думкамі ў рэдакцыі «Голасу Радзімы», дзе былі ўзгоднены планы пашырэння інфармацыі пра жыццё беларусаў у ПНР на старонках «Голасу Радзімы», асвятлення праблем перабудовы ў «Ніве».

Сябры з БГКТ сталі сведкамі важнай падзеі ў тэатральным жыцці сталіцы. Якраз у час іх знаходжання адбылася прэм'ера оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» беларускага кампазітара У. Солтана. Прэм'ера прайшла з вялікім поспехам. Опера ўжо запланавана да пастаноўкі на сцэне Масквы і за мяжою.

— Вялікае дзякуй за выдатныя варункі і змястоўную праграму нашага побыту,— сказаў на развітанне кіраўнік дэлегацыі А. Баршчэўскі. — Усё, што мы супольна здзейснім, паслужыць развіццю беларускай культуры.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: дэлегацыя БГКТ з Беластока ў майстэрні народнага мастака СССР М. Савіцкага.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# «САЮЗ», «БУРАН» І ІНШЫЯ

**Галоўны канструктар шматразовага карабля «Буран» Юрый СЯМЁНАЎ расказвае аб перспектывах савецкай пілатуемай касманаўтыкі.**

Пілатуемым палётам належыць прыкметнае месца ў савецкай праграме касмічных даследаванняў. На заранку касманаўтыкі галоўным у такіх палётах было высветліць, ці можа чалавек эфектыўна працаваць у касмічнай прасторы. Сёння, калі працягласць экспедыцый на арбітальных станцыях дасягнула года, мы ўжо добра ўяўляем магчымасці касманаўтаў у гэтым плане. На сённяшні дзень у СССР здзейснена больш за 60 пілатуемых палётаў, яшчэ ў 15 рэйсах разам з савецкімі касманаўтамі на арбіты падніманіся прадстаўнікі іншых дзяржаў.

Пытанні эканамічнай аддачы касмічных палётаў набываюць сёння асаблівую вастрыню. Меркаванні эканамічнай эфектыўнасці прымушаюць надаваць больш пільную ўвагу пытанням надзейнасці касмічнай тэхнікі, рамонтапрыгоднасці прыбораў і апаратуры. Што тычыцца транспартных сістэм, то іх далейшае тэхнічнае ўдасканаленне можна выдзеліць у якасці аднаго з галоўных напрамкаў усёй касманаўтыкі.

Пачынаючы з 1957 года ў СССР эксплуатуюцца аднаразовыя ракеты-носьбіты, калі можна так сказаць, сямейства Р-7 — вядомай ракеты, якая створана пад кіраўніцтвам Сяргея Каралёва і якая паслужыла асновай для носьбітаў наступных мадыфікацый. Па сутнасці, усе пілатуемыя палёты ў СССР забяспечваліся ракетамі гэтага сямейства, у некалькі разоў большая колькасць такіх жа носьбітаў выкарыстоўвалася для запуску беспілотных аб'ектаў, уключаючы аўтаматычныя грузавікі «Прагрэс», якія сёння забяспечваюць арбітальныя комплексы ўсімі расходуемымі матэрыяламі. Гаворачы аб аднаразовых савецкіх ракетах, нельга не ўпамянуць і «Пратон». Гэты носьбіт выводзіць на арбіты ўсе арбітальныя станцыі, цяжкія грузавыя караблі тыпу «Космас-1667» і створаныя на іх базе спецыялізаваныя модулі. «Пратон» — асноўная ракета, якая забяспечвае запускі міжпланетных станцый. Яшчэ два менш магутныя носьбіты — ракеты «Інтэркосмас» і «Цыклон» — скарыстоўваюцца для запуску некаторых тыпаў спадарожнікаў.

У апошнія гады ў СССР пачата эксплуатацыя дзвюх новых транспартных сістэм, заснаваных на ракетах сярэдняга і цяжкага класа. Маецца на ўвазе тандэм «Энергія» — «Буран». Элементы гэтай «звязкі» могуць выкарыстоўвацца як сумесна, так і аўтаномна. Хаця традыцыйна прымяняемыя ў пілатуемых палётах караблі «Саюз» у развіцці істотна і мяняліся, але ўсё ж іх магчымасці па транспартаванню грузаў на арбіту і назад, калі карабель стартуе з [illegible]пажам, абмежаваныя. Рост грузапатоку па лініі Зямл[illegible] арбіта — Зямля прымушае ставіць пытанне аб значным павышэнні грузападымальнасці караблёў, зніжэнні ўдзельнага кошту дастаўкі грузаў на арбіту. Найбольш радыкальным рашэннем тут было б стварэнне поўнасцю многаразовай аднаступеньчатай авіяцыйна-касмічнай сістэмы. Праекты такога роду маюцца, але складанасці рэалізацыі [illegible] вымушаюць адносіць падобныя распрацоўкі на далё[illegible] перспектыву. Бягучыя ж планы звязваюцца, у прыватнасці, з выкарыстаннем новага носьбіта сярэдняй грузападымальнасці для мадыфікаванага «Саюза» і прымяненнем сістэмы цяжкага класа «Энергія» — «Буран». Кожны з варыянтаў мяркуецца прымяняць для пэўных відаў работ.

Сёння ў свеце актыўна выкарыстоўваюцца многія сістэмы — сувязі, метэаралогіі, прыродазнаўства, навігацыі, што дзейнічаюць на аснове спадарожнікаў. Для эксплуатацыі гэтых сістэм, іх удасканалення, укаранення прынцыпова новых народнагаспадарчых касмічных апаратаў патрабуюцца як беспілотныя, так і пілатуемыя запускі. Савецкая касманаўтыка мае добры задзел для далейшага развіцця ўсіх названых напрамкаў.

Рэальнасцю нашых дзён стала актывізацыя міжнароднага касмічнага супрацоўніцтва на дагаворнай і камерцыйнай асновах. У апошні час СССР падпісаў пагадненні аб удзеле ў палётах на савецкай тэхніцы касманаўтаў Аўстрыі і Японіі. Маецца шмат іншых праектаў, дзе краіны, аб'яднаўшы намаганні, маглі б прымусіць космас працаваць на карысць усіх зямлян.

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ГЕРОЙ З САСНОЎКІ

Сасноўская сярэдняя школа Слонімскага раёна носіць імя Героя Савецкага Саюза Барыса Пішчыкевіча. Ён наш зямляк, ураджэнец вёскі Сасноўка.

Жыццё не песціла Барыса Пішчыкевіча, круціла яго, як у жорнах. Калі споўнілася яму дванаццаць гадоў, ён разам з бацькам пачаў апрацоўваць панскую зямлю, ад зары да зары працуючы на чужым полі. Колькі ні гнулі спіны на паноў, а самі як былі, так і засталіся беднымі.

З набліжэннем першай сусветнай вайны сям'я Пішчыкевічаў эвакуіравалася ў горад Новарасійск. Тут дваццацігадовы бежанец з Сасноўкі паступае рабочым на цэментны завод «Пралетарый», дзе атрымлівае першую рэвалюцыйную загартоўку. Па загаду партыйнага камітэта, хаваючыся ад жандараў, малады Пішчыкевіч расклейвае па начах лістоўкі, агітуе рабочых супраць вайны і мабілізацыі ў армію.

У хуткім часе юнака пераводзяць на завод «Судасталь». Тут ён уступае ў камсамол, разам з бальшавікамі змагаецца за Савецкую ўладу, прымае ўдзел у разгроме белагвардзейскіх банд на Кубані. У 1921 годзе Барыса Пішчыкевіча прымаюць у рады партыі бальшавікоў.

Пасля грамадзянскай вайны былыя байцы Чырвонай Арміі сталі вяртацца ў свае родныя мясціны. Толькі Б. Пішчыкевічу не было куды вярнуцца: у далёкай Сасноўцы, у Заходняй Беларусі, гаспадарылі чужынцы. І таму ён зноў ідзе на свой завод. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці працоўнага калектыву, узначальвае камсамольскую арганізацыю Анінскага раёна. Як здольнага і энергічнага кіраўніка, яго выбіраюць членам акружкома камсамола.

У 1928 годзе партыя накіравала перадавога працаўніка і камуніста ў Маскоўскі інстытут чырвонай прафесуры. Закончыўшы інстытут, Б. Пішчыкевіч паступае ў вышэйшую школу прафтэхруху. Пасля вучобы Барыса Тарасавіча выбіраюць сакратаром Цэнтральнага Камітэта прафсаюза работнікаў камунальных прадпрыемстваў.

Вялікая Айчынная вайна застала нашага земляка ў Маскве. «Маё месца сярод тых, хто са зброяй у руках абараняе Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў»,—пісаў у сваёй заяве на імя кіруючых органаў забраніраваны ад фронта сакратар ЦК прафсаюза ў першыя дні вайны.

І вось палітработнік, афіцэр Б. Пішчыкевіч у радах дзеючай арміі. На фронце ён прайшоў шлях ад старшага палітрука да падпалкоўніка, ад агітатара стралковага палка да намесніка начальніка палітаддзела 69-й стралковай дывізіі.

...Ішоў трэці год цяжкай кровапралітнай бітвы з фашыстамі. Несучы страты, яго дывізія ўступіла ў Чарнігаўскую вобласць. Разгарнуліся жорсткія баі з ворагам, які засеў у мястэчку Радулы на шляху да Дняпра.

Савецкія воіны, зламаўшы супраціўленне фашыстаў, выйшлі на бераг ракі. Але наперадзе галоўная задача — фарсіраванне шырокай воднай перашкоды. На правым беразе Дняпра немцы замацаваліся трывала і, здавалася, надзейна. Наступленне пачалося пасля магутнага агню нашай артылерыі. Атрад стралковага падраздзялення пад камандаваннем маёра Пішчыкевіча пад шквальным варожым абстрэлам фарсіраваў раку, уступіў у жорсткую сутычку з фашыстамі і захапіў плацдарм, з якога потым развівалася наступленне нашых войск...

За гэты подзвіг Барысу Пішчыкевічу было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

У радах праслаўленай 69-й стралковай дывізіі ваяваў Барыс Тарасавіч і на беларускай зямлі. У 1944 годзе вызваляў родную Слонімшчыну. І трэба было так здарыцца, што праз трыццаць гадоў зноў завітаў у сваю Сасноўку, на гэты раз воінам-вызваліцелем. Хвалюючай і радаснай была сустрэча з землякамі, з тымі, хто ўцалеў ад фашыстаў. Але не затрымаўся Барыс Тарасавіч у сваёй вёсцы. Наведаў магілу бацькоў і разам з дывізіяй пайшоў далей на захад.

Пасля вайны Б. Пішчыкевіч неаднаразова прыязджаў з Масквы на Слонімшчыну. Ён бываў у Сасноўцы, якая ўражвала яго вялікімі зменамі. З яго непасрэднай дапамогай у вёсцы пабудавана новая сярэдняя школа, якая цяпер носіць імя свайго земляка-героя. А школьнікі-следапыты і сёння перапісваюцца з жонкай героя — Верай Фёдараўнай, з ветэранамі 69-й стралковай дывізіі.

Сустракаўся Барыс Тарасавіч і з вучнямі чацвёртай сярэдняй школы горада Слоніма, у музеі якой захоўваюцца яго франтавыя рэчы, фотакарткі, паштоўкі...

Наша памяць пра Барыса Пішчыкевіча — гэта бязмежная ўдзячнасць герою за яго подзвігі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

*ТОЧКА ЗРЕНИЯ УЧЕНОГО*

# ОБЩЕСТВЕННАЯ СОБСТВЕННОСТЬ ПРИ СОЦИАЛИЗМЕ

Многие советские ученые и публицисты, исследуя эту проблему, считают созданное в СССР общество социалистическим, но с прилагательными «административный», «бюрократический», «формальный», «ранний», «казарменный», «военно-феодальный» и т. д.

Есть и иная точка зрения: созданное общество не является социалистическим. Эта позиция встречена вопросом-утверждением: неужели сторонники ее забыли, что у нас давно утвердилась общественная собственность на средства производства и нет эксплуатации?

Полагаю, однако, что дело с оценкой строя не столь однозначно.

### КАК НАЧАЛО ОБОБЩЕСТВЛЕНИЯ СТАЛО ФИНАЛОМ

Утверждение общественной собственности — не одноразовый акт революционной экспроприации, а чрезвычайно сложный, длительный процесс. Ее победа означает непрерывное присвоение созданного и создаваемого общественного богатства свободно ассоциированными производителями. Происходит возвращение человека к самому себе из стихийного и враждебного ему мира. Обобществить (социализировать) средства производства — значит обрести власть над ними: владеть, распоряжаться и пользоваться ими. Только все это вместе обеспечивает полноту обобществления.

Следовательно, рано говорить о победе социалистической собственности, вернув народу лишь владение средствами производства. Отношения владения вообще не могут быть определяющими — можно пользоваться предметом, не владея им и даже не распоряжаясь; можно и распоряжаться вещью, не владея ею.

Отношения владения одновременно и наиболее понятны для масс и легко изменяемы — тут как раз достаточно революционной экспроприации. Поэтому-то после ее завершения чаще всего и провозглашается победа социалистической собственности, но остаются в тени другие, более сложные экономические отношения.

Подмена очевидна: **огосударствление средств производства становится не началом, а финалом обобществления.** Сложный и длительный процесс обретения власти над условиями производства заменяется формальным провозглашением трудящихся коллективными совладельцами. Достаточно владение отождествить с пользованием и распоряжением, и для строительства отношений собственности не остается места, они как бы становятся ненужными, за исключением сближения различных форм. За собственностью остается лишь вещественная, предметная характеристика — это заводы, фабрики, станки, электростанции и так далее, которые надо беречь, наращивать, увеличивать.

На самом же деле отношения собственности сохранились, но, не получая простора для своего социалистического развития, они становятся как бы «подпольными», то есть антисоциалистическими. В «подпольной» экономике на уровне перераспределения прокручиваются десятки миллиардов рублей.

Это происходит, когда те, кто призван служить народу, встают над ним, присваивая себе исключительное право на распоряжение и использование общественного богатства. Государственная собственность не обретает общественного характера, а становится совместной «частной собственностью» тех, кто стоит у власти и использует ее фактически бесконтрольно как «дойную корову» для различных целей, в том числе и для личного обогащения. Игра в «совладельцев» становится прикрытием внеэкономических форм эксплуатации, избавиться от которых можно, лишь возобновив социалистическое обобществление и развивая во всех сферах самоуправление народа.

### СУТЬ ДЕМОКРАТИЗАЦИИ — ПЕРЕРАСПРЕДЕЛЕНИЕ ФУНКЦИЙ СОБСТВЕННОСТИ

При социализме существуют многообразные формы собственности: личная и общественная; государственная и кооперативная; национальная и интернациональная. Есть и смешанные формы, а в некоторых странах долго сохраняется и частная собственность на средства производства. Не обсуждая особенности этих форм и их значение, отметим, что в последнее время многообразие форм собственности признается благом, поощряется, так как помогает привлечь к развитию социализма различные слои общества на основе их интересов. Например, сейчас преодолевается долго бытовавшая оценка кооперативной собственности как менее социалистической, как бы второсортной, которую необходимо подтянуть до уровня государственной, признававшейся, как само собой разумеющееся, общенародной. Хотя и это право ограничено массой различных предписаний. Министерства до сих пор стремятся к централизму ведомственного типа, узурпируя все функции собственности на всех уровнях (от цеха до главка). Они не очень охотно идут на перераспределение прав собственности в пользу хозрасчетных предприятий. Многим ведомствам оказалось не под силу добровольно ограничить себя на уровне предприятий (объединений) лишь владением с правами учредительных органов. Произвол абсолютного полновластия в отношениях собственности на протяжении многих десятилетий укоренился слишком глубоко. Трудный опыт вступления в силу Закона о социалистическом предприятии (объединении) подтверждает это наглядно: многие трудовые коллективы по-прежнему в полной зависимости от «верхних» этажей управления.

Следует признать, что государственная собственность — лишь предпосылка общественной собственности. В силу тотальности она заключает в себе возможность как дальнейшего обобществления труда, так и его отчуждения бюрократическим аппаратом власти. Об этом предупреждал Маркс, когда указывал на «постоянную опасность правительственной узурпации классового господства». Ф. Энгельс, называя современное государство «идеальным совокупным капиталистом», считал, что утверждение государственной собственности в ходе революции не разрешает основного противоречия буржуазного общества, а лишь содержит в себе формальное средство, возможность его разрешения.

**Виктор КИСЕЛЕВ,**
**кандидат философских наук.**
(АПН).



**На Комсомольском озере в Минске.** **Фото М. МИНКОВИЧА.**

**РЕШЕНИЕ ПРОБЛЕМЫ НЕ КОСНЕТСЯ ФИНАНСОВЫХ ИНТЕРЕСОВ СОВЕТСКИХ ЛЮДЕЙ**

# ИЗ БЮДЖЕТНОГО ТУПИКА

Год 1989-й войдет в историю Советского Союза, очевидно, не только как год перевода всей экономики страны на полный хозрасчет и самофинансирование, но и как год впервые обнародованного бюджетного дефицита. Первого, если исходить из официальной версии, хотя многие ученые-экономисты придерживаются другой точки зрения.

Итак, впервые (согласимся с этим) государственный бюджет СССР сверстан с превышением расходов над доходами в размере 36,3 миллиарда рублей (7,3 процента всего его объема). Однако, как выясняется (при анализе доходной части), это лишь видимая часть дефицитного айсберга, основная его масса спрятана под видом «средств общегосударственного ссудного фонда», т. е. заемных. На их долю приходится 63,4 миллиарда, или около 14 процентов всех поступлений в бюджет. В целом, таким образом, бюджетный дефицит текущего 1989 года составит почти 100 миллиардов рублей (для сравнения — вся доходная часть бюджета исчисляется суммой в 458,4 миллиарда).

Представленный в таком виде на рассмотрение Верховного Совета СССР государственный бюджет произвел эффект разорвавшейся бомбы. В правительство, Госплан СССР, Министерство финансов потоком пошли запросы, как могло такое случиться и что они намерены предпринять, чтобы вывести страну из финансового кризиса. Проблема в связи с ее активным обсуждением в печати, предвыборных дискуссиях приобрела исключительную остроту. К ее решению Госплан и Министерство финансов СССР привлекли ведущих экономистов и финансистов страны. Выработанные ими предложения обобщены и в настоящее время находятся на рассмотрении Совета Министров СССР. В чем их суть?

**Владимир ГРИБОВ, начальник сводного отдела финансов и цен Госплана СССР:**

— Выход из создавшегося положения, как это следует из предложенной правительству программы финансового оздоровления экономики, Госплан и Минфин видят в радикальном пересмотре инвестиционной политики государства, экономном использовании ресурсов, в интенсификации производства. Только пересмотр производственной структуры капиталовложений высвободит для покрытия бюджетного дефицита свыше 7 миллиардов рублей плюс миллиарды, сэкономленные на обороне и ликвидации убыточных предприятий. Последние, между прочим, ежегодно съедают свыше 11 миллиардов рублей. Избавиться от них — значит избавиться от одного из главных источников бюджетного дефицита. Решение этой проблемы видится в кооперации, аренде, создании акционерных обществ. Практика показывает, что такой путь позволяет предприятиям быстро преодолеть финансовые трудности и буквально в течение года выйти на уровень высокорентабельных производств.

Как серьезный резерв, способный дать казне недостающие ей денежные ресурсы, рассматривают в Госплане и накопленные предприятиями сверхнормативные запасы материальных ценностей на сумму в 470 миллиардов рублей (примерно половина валового национального продукта). Побудить производственные коллективы хотя бы частично вовлечь их в хозяйственный оборот — одна из актуальнейших задач перестройки.

Но как это сделать в условиях полного хозяйственного расчета и самофинансирования, самостоятельности производственных коллективов, их защищенности Законом о государственном предприятии от вмешательства со стороны центральных ведомств?

**ВЛАДИМИР ГРИБОВ:**

— Решение этой проблемы мы ищем через посредство экономических рычагов и стимулов. Как один из вариантов предложили банкам поднять планку стоимости кредита, предоставляемого предприятиям и организациям для закупок сверхнормативных запасов сырья, материалов. Предложение это принято и уже действует. А это значит, что ссуды под такого рода сделки выдаются теперь под процент, почти в 5 раз превышающий его обычную ставку (3, 4).

Ставится также задача резко сократить объемы незавершенного строительства, финансируемого государством. Речь прежде всего идет о строительстве, превышающем нормативные сроки. Его объемы по сравнению с предыдущим годом выросли с 8,2 миллиарда рублей до 13,3 миллиарда. Мало того, что сами по себе эти миллиарды, по существу, омертвленные средства, но они тянут за собой еще и дополнительные издержки, связанные с оплатой труда и расходами на различные материалы, сырье, оборудование, вовлекаемые в строительство, которое, как бы там ни было, продолжается.

**Владимир ГРИБОВ:**

— Безвозмездное инвестирование капитального строительства только развращает участников этого процесса. Надо перевести их на кредитное финансирование (что, собственно, и предусматривает пакет предложений по преодолению бюджетного дефицита). Тогда никому невыгодно будет затягивать сроки строительства.

Непроизводительные траты и потери всегда были и остаются тяжелым бременем для национального бюджета. Но они вдвойне, втройне тяжелее сейчас, в условиях его дефицита. Тем более, что речь идет не о каких-то там мелочах, а о 24 миллиардах рублей, безвозвратно потерянных советской экономикой в минувшем году.

**Владимир ГРИБОВ:**

— Пока мы не знаем и не владеем способом перекрыть этот канал утечки, однако у нас есть все основания полагать, что полный хозрасчет и самофинансирование, на которые с начала года перешли все предприятия и хозяйства страны, заставят производственные коллективы вести свои дела экономно, с минимальными непроизводительными издержками. Им придется так действовать, поскольку безвозвратные государственные субсидии, которыми до последнего времени, не стесняя себя, пользовалась бесхозяйственность, ушли в прошлое.

Но, считает Грибов, все эти меры могут не дать ожидаемого результата, если мы не ликвидируем ценовые диспропорции и нависший над всей финансовой системой государства дамоклов меч 300-миллиардных денежных накоплений населения, стимулирующих инфляционные процессы в стране. Выход из этой ситуации, который, по мнению Грибова, благотворно скажется и на бюджете,—в структурной перестройке, в опережающих темпах развития отраслей, работающих непосредственно на потребительский рынок. Задача состоит в том, чтобы резко, буквально в течение двух лет, преодолеть товарный кризис и выйти на уровень если не достаточного, то близкого к нему насыщения рынка всем тем, что пользуется сегодня спросом у населения.

— Как видим,— сказал в заключение Владимир Грибов,— предложенные нами меры носят комплексный характер. Возможно, они несколько разноплановы, но зато четко сфокусированы. Если бы нам удалось реализовать хотя бы сотую долю из того, что задумано, с бюджетным дефицитом было бы покончено уже в нынешнем году. Однако мы реалисты и не тешим себя несбыточными надеждами. По нашим расчетам, к концу текущего года удастся избавиться лишь от 30 миллиардов дефицитных рублей. Окончательно — в 1990-м. При этом замечу, что и в нынешнем, и в предстоящем году решение проблемы ни в коей мере не коснется финансовых интересов советских людей. Поиски выхода из бюджетного тупика ведутся исключительно на путях повышения эффективности хозяйственного механизма советской экономики, рационального использования ее ресурсов.

**Александр ДЕДУЛ.**
(АПН).

## САВЕЦКІЯ АКЦЁРЫ СТВАРЫЛІ ПРАФЕСІЙНУЮ ГІЛЬДЫЮ

# АБАРАНЯЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

«Савецкі акцёр бяспраўны, далей так жыць нельга» — гэтыя страсныя словы неаднаразова гучалі пад скляпеннямі Белай залы Саюза кінематаграфістаў СССР, калі тут прымаўся праект статута гільдыі кінаакцёраў.

Стварэнне прафесійных гільдый, якім цяпер заняты ў Саюзе кінематаграфістаў прадстаўнікі ўсіх практычна кінаспецыяльнасцей, сведчыць не толькі пра жаданне творчай інтэлігенцыі абараніць свае правы, але і пра далейшае паглыбленне працэсу дэмакратызацыі ў савецкім грамадстве. Таму што прафесійная гільдыя выступае тут як канструктыўная альтэрнатыва камандна-бюракратычнай сістэме, што пакінула свой жалезны след і на мастацтве кіно таксама.

Прыклад са стварэннем акцёрскай гільдыі здольны тут многае праясніць. Аб сацыяльнай неабароненасці савецкіх акцёраў, аб іх лёсе, які татальна залежыць ад сістэмы кінавытворчасці, што склалася яшчэ ў 30-я, здаецца, гады, напісана і сказана ў апошні час нямала. І таму стварэнне Усесаюзнай гільдыі акцёраў, якія здымаюцца ў кіно (ГАСК), паводле слоў папулярнага артыста Льва Дурава, можна назваць «заваяваным правам на здабыванне ўласнай годнасці і магчымасцю распараджацца сваім лёсам».

Да сённяшняга дня, як гэта ні парадаксальна, у СССР, буйной кінадзяржаве (каля 300 ігравых карцін у год), не было арганізацыі, якая б не тое што толькі абараняла правы акцёраў, але нават ведала пра іх. Што ж тычыцца так званай «акцёрскай секцыі» пры Саюзе кінематаграфістаў, то яна ў сілу сваёй «элітарнай» дзейнасці (прадстаўніцтва на замежных фестывалях і інш.) была ў прамым і пераносным сэнсе за тысячу кіламетраў ад патрэб радавога артыста.

І таму ідэя «расслаення», дэцэнтралізацыі ўлады, недапушчальнасць яе сканцэнтравання ў руках нямногіх (няхай і самых дастойных) — гэта ідэя пакладзена ў аснову структуры ГАСКа, прадыктавана вопытам мінулых дзесяцігоддзяў. І калі, у прыватнасці, была выказана думка аб тым, што, маўляў, гільдыя не стане моцнай арганізацыяй, калі яе прэзідэнту не дадуць вялікую ўладу, такі пункт гледжання падтрымкі не знайшоў: вынікі «моцнай улады» ў СССР помняць яшчэ дастаткова добра.

Прэзідэнтам ГАСКа выбраны 48-гадовы Яўген Жарыкаў — акцёр, які пачынаў у Андрэя Таркоўскага ў яго славутай карціне «Іванава дзяцінства» і заваяваў вялікую папулярнасць дзякуючы тэлесерыялу «Народжаная рэвалюцыяй», дзе ён сыграў удачлівага, прыгожага і мудрага камісара міліцыі. У калег, асабліва ў акцёраў, я б сказаў, «другога эшалона» (а яны, хто здымаецца ў кіно значна радзей за «зорак», асабліва зацікаўлены ў гільдыі), Жарыкаў мае бясспрэчны аўтарытэт. Цікава, што супраць яго выступіў толькі адзін Алег Янкоўскі (якога сёння многія называюць «зоркай нумар адзін» савецкага кіно). Ён палічыў кандыдатуру Жарыкава недастаткова прэстыжнай, каб з максімальным поспехам вырашаць надзённыя акцёрскія праблемы (для гэтага ж прыйдзецца ўваходзіць у вышэйшыя эшалоны ўлады, і паважнасць прэзідэнта гільдыі будзе адыгрываць тут не апошнюю ролю).

На працягу двух гадоў Жарыкаў быў лідэрам ініцыятыўнай групы па выпрацоўцы праекта статута гільдыі. Яго апантанасць справай, шчырасць імкненняў не выклікаюць сумненняў.

**«Наперадзе вялікая работа, — гаворыць Яўгеній Жарыкаў. — Гільдыя перш за ўсё будзе змагацца супраць ушчамлення чалавечых, творчых і сацыяльных п[...]ў артыстаў. Нашым акцё[...] плацяць вельмі мала. Для таго каб нармальна жыць, яны вымушаны працаваць адначасова ў некалькіх фільмах, у некалькіх канцэртных праграмах, у тэатры, на [...]чё, на тэлебачанні... А ад[...]а, як вы разумееце, церпіць і сама творчасць, з'яўляецца халтура. Неабходна ўлічваць і спецыфіку акцёрскага жыцця. Калі для большасці людзей неабавязкова мець парадны касцюм, смокінг ці элегантную вячэрнюю сукенку, то для акцёраў гэта з'яўляецца неабходнасцю. А вечныя пераезды па краіне, а жыццё ў адрыве ад дому? А сям'я? Як утрымліваць сям'ю, гадаваць дзяцей? З-за гэтага адбываецца нямала драм...**

**Становішча не толькі сур'ёзнае, але і ў немалой ступені абсурднае, калі прыпомніць, што ва ўсім свеце акцёрская прафесія ў кіно — адна з самых высокааплачваных. У савецкім жа кіно, паводле трапнай заўвагі акцёра Леаніда Філатава, «вялікіх грошай каштуе апаратура, плёнка, ну а акцёры не каштуюць амаль нічога».**

Як сказаў Жарыкаў, гільдыі важна выпрацаваць юрыдычныя і эканамічныя рэгулятары ва ўзаемаадносінах з кінастудыямі і кінапракатам. У савецкага кінапраката няма на сённяшні дзень кроўнай зацікаўленасці ў дадатковых даходах, якія можа прынесці кінематограф, у той час як на Захадзе, як вядома, такі інтарэс — аснова асноў. У ГАСКу лічаць, што наспела неабходнасць у менеджэрскай службе, якая б складалася з кампетэнтных людзей. Яны павінны арыентавацца як у агульнаэканамічнай сітуацыі ў краіне, так і ў сітуацыях на студыях. У якім напрамку будзе развівацца ідэя менеджэрскай службы, гаварыць пакуль рана, лічыць Жарыкаў. Ясна толькі адно: яна павінна быць на ўтрыманні ў гільдыі: яна ёй выгадная, таму што будзе змагацца за правы артыстаў.

**Азіз ОСІПАЎ.**

# ФЕСТЫВАЛЬ «МІНСКАЯ ВЯСНА»



**Традыцыйны фестываль «Мінская вясна» прайшоў у сталіцы Беларусі. У ім прынялі ўдзел не толькі беларускія выканаўцы, але і госці з Расійскай Федэрацыі і Прыбалтыкі. Яны пазнаёмілі слухачоў з сімфанічнай музыкай кампазітараў XX стагоддзя, камернымі творамі маладых беларускіх аўтараў. Багаты фестываль і на прэм'еры: слухачы пачулі новыя творы Г. Вагнера, А. Мдзівані, А. Эшпая. У праграме свята прайшлі аўтарскія вечары А. Пахмутавай, І. Лучанка, А. Шнітке.**

**НА ЗДЫМКАХ: на свята музыкі ў Беларускую дзяржаўную філармонію; спявае Віктар СКОРЫКАЎ; удзельнікі «Мінскай вясны» Аляксандра ПАХМУТАВА, Мікалай ДАБРАНРАВАЎ і Ігар ЛУЧАНОК.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**





## «ЛЯВОНІХА» СПЯШАЕЦЦА Ў КАЛОМБА

Больш даведацца пра беларускі народ, пазнаёміцца з яго культурай і традыцыямі ланкійцам дапамогуць маючыя адбыцца Дні БССР у Шры-Ланцы. Для перагавораў аб іх правядзенні ў рэспубліцы знаходзілася дэлегацыя Лігі ланка-савецкай дружбы на чале з яе старшынёй Пітэрам Джаясякерай. Дні пройдуць у Каломба і іншых гарадах цудоўнага вострава — так у перакладзе з мясцовай мовы гучыць назва краіны — у першай палавіне лістапада. У праграме — выстаўкі графікі, дзіцячых рысункаў, кніг беларускіх пісьменнікаў, вырабаў народных промыслаў. Каломба наведае самадзейны ансамбль фальклорнай музыкі «Лявоніха», група артыстаў цырка. Запланавана спецыяльная фотавыстаўка і паказ дакументальных фільмаў пра жыццё рэспублікі.

— Нас не палохаюць вялікія адлегласці паміж Беларуссю і Шры-Ланкай, — сказаў журналісту Пітэр Джаясякера. — Кантакты паміж нашымі народамі, што прыкметна актывізаваліся ў апошні час, дазваляюць спадзявацца на ўстанаўленне больш цесных дружалюбных сувязей з беларускай грамадскасцю. У нас ёсць добрыя магчымасці і для стварэння сумесных прадпрыемстваў, развіцця супрацоўніцтва ў самых розных галінах. Працэс абнаўлення і перабудовы ўсіх сфер жыцця, які праходзіць у Савецкім Саюзе, яшчэ больш узмацніў цікавасць да вашай краіны ў ланкійцаў.

За час чатырохдзённага знаходжання ў Беларусі дэлегацыя мела сустрэчы ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР, рэспубліканскім Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Госці са Шры-Ланкі пабывалі на прадпрыемствах і ў гаспадарках рэспублікі, азнаёміліся з памятнымі мясцамі беларускай сталіцы.

## АДКРЫЕЦЦА КАРЦІННАЯ ГАЛЕРЭЯ

Пры Крычаўскім краязнаўчым музеі неўзабаве адкрыюцца карцінная галерэя і аддзел мастацкай творчасці. Для галерэі ўжо набыты работы народнага мастака БССР Я. Зайцава і мастака А. Бархаткова, скульптурны партрэт вядомага дзеяча партыі і дзяржавы, нашага славутага земляка П. Лепяшынскага (аўтар — С. Адашкевіч), іншыя творы вядомых мастакоў, звязаныя з гісторыяй Магілёўшчыны.

Папаўняецца экспазіцыя, прысвечаная ананімным паэмам «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Яна складаецца з прадметаў побыту той эпохі, ілюстрацый і дакументаў. З ліку мясцовых краязнаўцаў найбольшую актыўнасць у гэтай справе праяўляюць настаўніца СШ № 5 М. Белавусава і калгаснік Н. Драбінка.

Асноваю экспазіцыі аддзела мастацкай творчасці стануць матэрыялы, прысвечаныя нашым землякам: пісьменнікам, артыстам, мастакам, журналістам, народным умельцам. Знойдуць сваё месца на стэндах творы майстроў літаратуры і мастацтва з брацкіх рэспублік. Музей ужо мае кнігі і матэрыялы, прысвечаныя К. Сіманаву, Д. Кабалеўскаму і іншым. Шмат цікавага даслалі беларускія паэты, празаікі, мастацтвазнаўцы.

## З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, АРКЕСТР!

Радаснай падзеяй для гомельскіх аматараў класічнай музыкі стала нараджэнне сімфанічнага аркестра. Некалькі месяцаў назад у горадзе над Сожам пабывалі пабрацімы з Еленягурскага ваяводства. Польскія музыканты не толькі пакарылі гаспадароў віртуозным выкананнем класічных твораў еўрапейскіх кампазітараў, але і падказалі ідэю стварэння свайго сімфанічнага калектыву.

Сябры з ПНР сталі і кансультантамі новага аркестра, які ўтвораны пры актыўным садзейнічанні Гомельскага аддзялення Беларускага музычнага таварыства. Яго касцяк склалі выкладчыкі мясцовага музычнага вучылішча, дзіцячых школ мастацтваў горада, выпускнікі Белдзяржкансерваторыі імя А. Луначарскага. У праграме першага канцэрта нованароджанага сімфанічнага аркестра з поспехам прагучала сюіта польскага кампазітара Э. Чэрны «Мелодыі свету».

№ 16 (2106), 20 красавіка 1989 г.

# «ПТУШЫНАЕ ЦАРСТВА» БАБУЛІ ПРАСКОЎІ

Гэтая сустрэча адбылася на традыцыйным свяце народнага майстэрства, якое праводзіцца ў Гродне ля сцен былога манастыра — помніка дойлідства XVIII стагоддзя, цяпер Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі. Майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, самадзейныя мастакі, фальклорныя ансамблі і проста аматары народнай творчасці сабраліся разам на невялікай утульнай плошчы. ткачыхі і ганчары, майстры разьбы па дрэву, майстры пляцення з саломкі, лазы, бяросты, вышывальшчыцы і каруначніцы, мастакі і скульптары дэманстравалі сваё ўменне.

Увагу многіх удзельнікаў свята прыцягнула ласкавая, з добрай усмешкай на твары бабуля. Каля яе тоўпілася цікаўная дзятва, надоўга затрымліваліся дарослыя. Бабуля Праскоўя — так завуць майстрыху — трымала ў руках вельмі яркіх гліняных птушачак, якія не-не ды і ўзмахвалі крылцамі, нібыта збіраліся паляцець.

— Бабуля, такую птушку цяжка зляпіць? — спытала маленькая дзяўчынка.

— Не, дзіцятка, няцяжка. Было б жаданне. Прыязджай да мяне ў госці, навучу.

— А куды? — не сунімалася малая.

— У Зембін, унучка. За Мінскам гэта.

Калі свята набліжалася да канца, я падышла да бабулі Праскоўі, каб пазнаёміцца бліжэй, даведацца пра яе унікальнае рамяство. На століку, за якім яна сядзела, стаялі гліняныя зайчыкі, пеўнікі, баранчыкі, мядзведзікі... Былі тут і цацкі-свістулькі, і проста «гліняныя цацкі». Цацак засталося зусім мала: раскупілі ўраз.

— Як тут добра, весела! — шчыра прызналася Праскоўя Шматко. — Як быццам памаладзела гадкоў на дзесяць, а можа і болей.

Праз паўгода я пабывала дома ў васьмідзесяцігадовай майстрыхі. Праскоўя Сямёнаўна няспешна расказвала аб пражытым. Яшчэ да вайны ад цяжкай хваробы памёр муж. Засталося чацвёра дзяцей. Адной даводзілася прасці і ткаць, плесці лапці і касіць, зямлю араць... На свята яна заўсёды ўпрыгожвае вокны папяровымі карункавымі фіранкамі. Вельмі любіць рукадзельнічаць: пляце саламяных звяркоў, распісвае насценныя дыванікі. Працавітыя ў яе рукі.

Бабуля Праскоўя дзялілася сакрэтамі свайго майстэрства, а я ўсё любавалася вялікай «птушынай сям'ёй», што размясцілася ў маленькім пакоі. Рознакаляровыя, з грабеньчыкамі і без іх, з дэкаратыўнымі крылцамі і хвосцікамі, птушкі радавалі вока, будзілі фантазію.

В. ВОЛАХ.

# НАШЧАДКІ ПУШКІНА Ў ЦЕЛУШЫ

У цэнтры вёскі Целуша Бабруйскага раёна знаходзіцца адзінокая магіла. На яе абеліску надпіс: «Наталля Аляксандраўна Пушкіна, па мужу Варанцова-Вельямінава, 3 снежня 1912 г., 53 гады».

Наталля Аляксандраўна была дачкой старэйшага сына А. С. Пушкіна. У 1881 годзе яна выйшла замуж за афіцэра гусарскага Нарвскага палка, якім камандаваў яе бацька-палкоўнік. Праз некалькі гадоў пасля жаніцьбы П. Варанцоў-Вельямінаў выйшаў у адстаўку і разам з сям'ёй пераехаў жыць у свой маёнтак Вавуліцы (непадалёку ад Целушы). Наталля Аляксандраўна пісала вершы, малявала пейзажы і партрэты.

І. ШПАДАРУК.





«Паўлінка» — так названа аматарскае аб'яднанне па ткацтву, створанае пры Доме культуры вёскі Сачыўкі Іванаўскага раёна. У гэтых мясцінах старажытным рамяством валодаюць многія, з пакалення ў пакаленне перадаюцца яго сакрэты. І ўсё ж прыкметна паменшала вопытных ткачых. Захоўваць і развіваць іх традыцыі — у гэтым і бачыць сваю задачу аб'яднанне. На вячоркі ў «Паўлінку» збіраюцца вучні старэйшых класаў, выкладчыкі мясцовай школы, будучыя культработнікі — навучэнцы Ляскавіцкага навучальна-вытворчага камбіната — словам, усе, хто імкнецца авалодаць майстэрствам ткацтва і вышыўкі.

НА ЗДЫМКАХ: на вячорках у «Паўлінцы»; бібліятэкар Дома культуры Валянціна ГЕТМАНЧУК асвойвае майстэрства ткацтва.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## спорт

Ран[illegible] вясна дазволіла яхтсменам [illegible]ларусі добра падрыхтавацца да ўсесаюзных і міжнародных спаборніцтваў.

Мінчане Сяргей Шаўцоў, Аляксандр Нічыпарук і Сяргей Харэцкі выйшлі пераможцамі міжнар[illegible]най парусной рэгаты ў Югасл[illegible] ў класах «470» і «Фін».

Некалькі прадстаўнікоў нашай рэспублікі па скачках у ваду выступалі за мяжой. Ігар Жогаль заняў першае месца на матчы юніёраў ГДР — СССР. А Аляксей Когалеў заваяваў «бронзу» на міжнародным турніры ў Кітаі ў скачках з трампліна.

Пасля серыі няўдач г[illegible]давала тэнісістка Наталля [illegible]рава. Толькі ў фінале яна ўступіла вопытнай Штэфі Граф на спаборніцтвах у ЗША.

І, нарэшце, аб гандболе. У першым паўфінальным [illegible]матчы розыгрышу Кубка еўр[illegible]іскіх чэмпіёнаў мінскі СКА п[illegible]граў у гасцях «Магдэбургу» з ГДР — 25:26. А вось у матчы ў адказ беларускія спартсмены перамаглі з лікам 30:20 і выйшлі ў фінал.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

У пачатку стагоддзя, прыблізна ў 1911—1915 годзе, у Злучаныя Штаты Амерыкі з тэрыторыі былога Маладзечанскага павета (цяпер Валожынскі раён, вёска Ракаў) выехала сям'я майго дзеда Трусевіча Міхаіла. Разам з ім была мая цётка Трусевіч Станіслава Міхайлаўна, прыблізна 1899 года нараджэння, і дзядзька Трусевіч Вітольд Міхайлавіч, прыблізна 1896 года нараджэння.

У 50-я гады мая маці Царлюкевіч Юзэфа Міхайлаўна атрымлівала ад іх сям'і пісьмы, але пазней гэтая сувязь абарвалася і адрас згубіўся.

Вельмі прашу тых суайчыннікаў у ЗША, якім што-небудзь вядома пра лёс майго дзеда, цёткі і дзядзькі, іх дзяцей, паведаміць у рэдакцыю ці мне па адрасу:

**220100, г. Мінск,**
**вул. Сурганава, д. 57, кв. 4.**
**ЦАРЛЮКЕВІЧУ Феліцыяну Феліцыянавічу (тэл. 32-88-42).**

**НА ЗДЫМКУ:** справа мой дзед Міхаіл ТРУСЕВІЧ, цётка і дзядзька перад ад'ездам у ЗША.



# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## СУП БУЛЬБЯНЫ З ГРЫБАМІ, БАЦВІННЕМ БУРАКОЎ І АГУРКАМІ

Грыбы прамыць і замачыць у цёплай вадзе. Калі яны набрыняюць, варыць у той жа вадзе пад крышкай да мяккасці. Халодную вараную бульбу, бацвінне буракоў, абабраныя агуркі, цыбулю нарэзаць, дабавіць цёрты хрэн, пасаліць, апусціць у грыбны булён і паварыць. Дабавіць смятану і воцат.

На 8 порцый 0,7 літра вады, 600 грамаў бульбы, 100 грамаў сушаных грыбоў, 100 грамаў бацвіння буракоў, 3 агуркі, 80 грамаў зялёнай цыбулі, 20 грамаў хрэну, смятана, соль, воцат.

Каларыйнасць адной порцыі 173 кілакалорыі.

## ШАМПІНЬЁНЫ «ФРЫ»

Падрыхтаваныя шампіньёны зварыць да паўгатоўнасці астудзіць, запаніраваць у муцэ, памачыць у яйку, зноў запаніраваць у сухарах і абсмажыць у вялікай колькасці тлушчу. Падаць у халодным выглядзе.

600 грамаў шампіньёнаў, 2 чайныя лыжкі мукі, 1 яйка, 3 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, алей, соль.

## САЛАТ БУЛЬБЯНЫ З ЦЫБУЛЯЙ

Звараную ў мундзірах бульбу абабраць і нарэзаць скрылікамі таўшчынёй 1-2 міліметры. Дабавіць дробна парэзаную цыбулю. Запраўіць алеем, папярэдне змяшаўшы яго з воцатам, цукрам, соллю і перцам. Па краях талеркі (салатніка) пакласці 4 лісты зялёнай салаты, выкласці салат горкай, вакол яго — скрылікі агурка ці долькі памідора. Пасыпаць зелянінай пятрушкі.

На 5 порцый 400-600 грамаў бульбы, 1 цыбуліна, 2-3 сталовыя лыжкі алею, 2-3 сталовыя лыжкі 3-працэнтнага воцату, 1 агурок, 1 памідор, зяляніна, соль, молаты перац, цукар. Каларыйнасць адной порцыі 240 кілакалорый.

# ГАРАДСКАЯ ГЕРАЛЬДЫКА РЭСПУБЛІКІ

Вынікам дваццацігадовай пошукавай і даследчыцкай работы выкладчыка Мінскага інстытута культуры Анатоля Цітова стала кніга «Гарадская геральдыка Беларусі», якая выйшла ў выдавецтве «Полымя». Аўтару ўдалося сабраць унікальны ілюстрацыйны і фактычны матэрыял аб гербах 70 гарадоў рэспублікі. Новая кніга, на думку спецыялістаў, найбольш поўны даведнік па малавядомай галіне нацыянальнай культуры.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,
33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63854. Зак. 447